*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 16(124) ◈ 21 красавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***У МЕНСКУ АДБЫУСЯ МІТЫНГ «НАРОД СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ».** Ініцыятарамі яго правядзення былі БНФ «Адраджэньне» і Свабодны прафсаюз рэспублікі. Выступілі народныя дэпутаты Л. Баршчэўскі, С. Навумчык, І. Герасюк, Я. Новікаў і іншыя. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з патрабаваннем адстаўкі В. Кебіча, правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і новых дэмакратычных выбарах. Зянон Пазьняк заклікаў усіх прыйсці 18 траўня на плошчу Незалежнасці, каб падтрымаць апазіцыю БНФ падчас работы чарговай сесіі ВС.*

**ПА ПРАПАНОВЕ ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА** ў Менску адбылася сустрэча кіраўнікоў СНД. Здаецца, садружнасць яшчэ пажыве.

***ПА ЗВЕСТКАХ, ЯКІЯ БЫЛІ НАДРУКАВАНЫ Ў «НАРОДНАЙ ГАЗЕЦЕ»,** у Беларусі на сённяшні дзень у ЛКСМБ 250 чалавек. Гадоў пяць назад маладых ленінцаў налічвалася 1,5 мільёна. Так што ў камуністаў паслядоўнікаў кот наплакаў.*








Братам Івану і Антону Луцкевічам, якія стаялі каля вытокаў нашага Адраджэння, на Віленскіх могілках Росы пастаўлены сціплы помнік, несуразмерны з іх заслугамі перад нашым народам. Яны аддалі Беларусі ўсё: здароўе, талент, сілу...

27 сакавіка каля магілы братоў Луцкевічаў пра іх ахвярны чын гаварылі старшыня Рады БНР сп. Язэп Сажыч, генеральны дырэктар дэпартамента нацыянальнасцей Рэспублікі Літвы сп. Галіна Кабецкайтэ, сп. Вячка Станкевіч (ад імя Беларуска-амерыканскага Задзіночання), сп. Міхась Чарняўскі (сябра Цэнтральнай Рады Грамады), Алесь Станкевіч (старшыня Менскай гарадской рады БЗВ), сп. Тамара Раманькова (старшыня Магілёўскай філіі «Мартыралога Беларусі»), сп. Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа ды іншыя ўдзячныя суайчыннікі з Менска, Віленшчыны, а таксама старэйшы нашчадак роду Луцкевічаў — Лявон Луцкевіч ды наймалодшы — Багдан Андрусішын (Данчык), абодва яны на здымках.

**Фота Міколы САСНОЎСКАГА.**

## Як у даўняй Рэчы Паспалітай: хто мацнейшы, той і пан?

Свята Уваскрэшання Хрыстова закончылася заняццем будынка беларускай філарманічнай залы (былы касцёл Святога Роха на Залатой горцы ў Менску). Прыхаджане беларускамоўнай рыма-каталіцкай абшчыны адразу пасля святочных велікодных набажэнстваў адмовіліся пакінуць памяшканне былога касцёла і па сённяшні дзень там знаходзяцца. У выніку такой акцыі Беларуская дзяржаўная філармонія, якая валодае правам карыстання былым касцёльным будынкам з усёй маёмасцю, што там размешчана, уключаючы вельмі каштоўны чэшскі арган, пазбавілася магчымасці праводзіць музычна-канцэртную дзейнасць і нясе вялікія маральныя і фінансавыя страты. Парафіяльныя каталікі не маюць на сёння юрыдычнага права на валоданне былым касцёльным будынкам. Спробы дыялогу наконт гэтай праблемы з уладай добрага выніку не далі і скончыліся блакадай памяшкання. З гэтай нагоды паўстае пытанне: ці ёсць у Рэспубліцы Беларусь якая-кольвечы законнасць?

**Л. ЛІПЕНЬ.**

**КАМІСІЯ ПА КУЛЬТУРЫ БНФ СТВАРЫЛА ГРУПУ** па падрыхтоўцы зборніка, прысвечанага святкаванню 75-ых угодкаў БНР.

*У Беларусі зараз існуе больш за 2,5 тысячы фермерскіх гаспадарак. Мала. Дзіва што на прылаўках магазінаў не так ужо і густа.*

*На ніве Адраджэння*

## Следам за размоўнікамі — энцыклапедыя «Беларуская мова»

(Гутарка з прарэктарам па навуковай рабоце Менскага дзяржаўнага педінстытута замежных моў, доктарам філалагічных навук, прафесарам МІХНЕВІЧАМ Арнольдам Яфімавічам)

**— Арнольд Яфімавіч, у 1991 годзе пад Вашым аўтарствам выйшаў «Русско-белорусский разговорник», адрасаваны рускамоўным жыхарам Беларусі, а ў 1992 — у выдавецтве «Навука і тэхніка» «Англа-беларускі размоўнік» для тых, хто валодае англійскай мовай і жадае размаўляць па-беларуску. Такія кніжкі выдадзены ў Беларусі ўпершыню. З чаго пачыналася?**

— На маю думку, для таго каб вывучыць тую ці іншую мову, дастаткова мець некалькі прынцыповых кніжак навучальнага характару: добрую тэарэтычную граматыку, слоўнік, размоўнік і зборнік практыкаванняў. Я даўно пачаў працаваць на руска-беларускім сумежжы: падрыхтаваны і выдадзены «Белорусский язык для говорящих по-русски», «Русский язык в Белоруссии», а таксама серыя кніжак «Скарбы мовы». Задума скласці размоўнік для рускамоўных жыхароў Беларусі з'явілася даўно. Такая кніжка была неабходна, каб стаць добрым дапаможнікам тым, хто імкнецца ўдасканаліць веданне беларускай мовы. «Русско-белорусский разговорник», выпушчаны ў выдавецтве «Вышэйшая школа» ў 1991 г., меў вялікі тыраж, 150000 асобнікаў, і тым не менш, вельмі хутка быў раскуплены ў кнігарнях. Ён складаецца з адзінаццаці тэматычных раздзелаў: агульнаўжывальныя словы і выразы, мова і маўленне, моўны этыкет, чалавек, у горадзе і г.д. Я хацеў бы падкрэсліць, што ў гэтым размоўніку ёсць маленькая хрэстаматыя з ухілам у гумар. У яго ўключаны кароткія тэксты-дыялогі, у якіх гучыць літаратурная беларуская мова. У працэсе работы давялося прагледзець вялікую колькасць твораў беларускіх пісьменні-

*(Заканчэнне на с. 4).*



# БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ —

Як вядома, 26—27 сакавіка адбыўся III з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Са справаздачным дакладам пра дзейнасць ТБМ і яго першачарговыя задачы на будучае выступіў Ніл Гілевіч (гл. «Наша слова», № 14 за 7 красавіка 1993 г.).

Пасля яго выступлення слова папрасіў пісьменнік Алег Лойка. Ён паведаміў, што 25 сакавіка ў БДУ за подпісам аднаго з намеснікаў міністра адукацыі рэспублікі паступіў ліст, у якім кіраўнікоў універсітэта фактычна падштурхоўваюць прыняць рашэнне, каб руская мова атрымала статус дзяржаўнай. «Дзяржаўнае двухмоўе для нас — пятля»,— абурана падкрэсліў пісьменнік. Прысутныя яго падтрымалі, і ад імя III з'езда ТБМ была накіравана тэлеграма пратэсту Савету Міністраў і Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь.

Старшыня рэвізійнай камісіі ТБМ М. Кійка зрабіў фінансавую справаздачу дзейнасці Таварыства за перыяд паміж II і III з'ездамі. Ён адзначыў, што фінансаванне ТБМ адбываецца ў асноўным за кошт яго актыўнай выдавецкай дзейнасці. Адказваючы на пытанні, ён растлумачыў, што валютны рахунак ТБМ замарожаны, як амаль і ўсе валютныя рахункі былога Саюза. Пасля зацвярджэння справаздачы рэвізійнай камісіі ў спрэчках выступілі рэктар Менскага педагагічнага інстытута М. Ціханаў, сябра Салігорскага ТБМ М. Мацюкевіч, айцец Ян Матусевіч, сябра Дзятлаўскай арганізацыі ТБМ настаўнік М. Грышан, старшыня менскага клуба «Спадчына» А. Белы, народны дэпутат Вярхоўнага Савета РБ, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама Г. Карпенка, сябра менскай гарадской рады ТБМ А. Шамак, мінчук У. Вяроўкін, прадстаўнік Міністэрства абароны РБ палкоўнік У. Танана, спадарыня Т. Гарэлікава з Полацка, народны дэпутат А. Трусаў, наш суайчыннік з Лондана айцец А. Надсан, міністр замежных спраў РБ П. Краўчанка, народны дэпутат, галоўны сакратар ТБМ Я. Цумараў, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ В. Вячорка, намеснік старшыні БНФ Ю. Хадыка, народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль і іншыя.

Рэктар Менскага педагагічнага інстытута М. Ціханаў паведаміў, што і яны атрымалі ад Міністэрства адукацыі РБ пісьмовы запыт наконт дзяржаўнага двухмоўя і далі адказ, што беларуская мова павінна захаваць статус адзінай дзяржаўнай. Прамоўца паведаміў, што большасць выкладчыкаў пединстытута ўжо працуюць на беларускай мове (прыкладна 75 працэнтаў), а з 1 верасня г. г. увесь інстытут пяройдзе на рабочую беларускую мову. Зараз рыхтуюцца адпаведныя моўныя дапаможнікі для выкладчыкаў і студэнтаў. Ёсць складанасці і непаразуменні, але яны не істотныя.

Сябра Салігорскага ТБМ М. Мацюкевіч падкрэсліла, што толькі здраднікі народных інтарэсаў могуць накіроўваць рэктарам беларускіх ВНУ лісты, падобныя да тых, што былі адпраўлены Міністэрствам адукацыі РБ. Яна адзначыла, што ў Салігорску Закон аб мовах не выконваецца. Праўда, у студзені гарвыканкам абмяркоўваў гэта пытанне, аднак сур'ёзнай гаворкі не атрымалася. І ўсе тыя, хто рупіцца аб захаванні роднай мовы, залічаны да нацыяналістаў.

Святар Ян Матусевіч паведаміў, што апошнім часам каталіцкае духавенства на Беларусі стала больш ужываць у храмах беларускую мову. Ён прапанаваў увесці навучанне ў каталіцкіх і праваслаўных духоўных вучэльнях на роднай мове. Айцец Матусевіч расказаў пра незайздросны стан грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы на Беларусі. Хоць менавіта яна заўжды спрыяльна ставілася да ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Беларускія уніяты сёння — адзіная царква, што дагэтуль не мае сваіх культавых будынкаў. «Мы,— зазначыў святар,— прыхільна ставімся да вернікаў і духавенства ўсіх рэлігійных канфесій, але хочам, каб і нас паважалі».

М. Грышан выказаў востры папрок на адрас настаўніцтва, якое, на жаль, у сваёй большасці застаецца інертным і абыякавым да набалелых культурных і грамадскіх праблем. Нават настаўнікі роднай мовы і літаратуры па-за школай звычайна размаўляюць па-руску. Спадар Грышан лічыць, што распрацаваныя Міністэрствам адукацыі навучальныя праграмы непрыдатныя для карыстання. Ён таксама выказаў абурэнне тым фактам, што да гэтага часу КДБ не вярнула каля 40 твораў беларускай літаратуры, невядомых чытачу. Ён прапанаваў: з мэтай захавання роднай культуры і мовы варта аб'ядноўваць намаганні розных дэмакратычных арганізацый, у т. л. ТБМ з БНФ, як гэта здарылася ў Дзятлаве.

А. Белы сваё выступленне назваў «Праблемы мовы — праблемы палітычныя», у якім адзначыў, што «ўсе, хто вывучае гісторыю палітычных вучэнняў, і нават тыя, хто толькі штудзіраваў «Краткий курс истории ВКП(б)», ведаюць, што на кожным этапе палітычнай барацьбы ўзнікаюць праблемы, якія на нейкі час становяцца галоўнымі, вакол якіх і разгортваюцца ўсе тэарэтычныя і палітычныя спрэчкі. Такой для нас сталася праблема мовы».

Сп. Г. Карпенка, падкрэсліўшы, што сёння ТБМ пачынае збліжаць людзей, адзначыў: «Я цалкам падтрымліваю дзяржаўнае аднамоўе. Уладам усіх узроўняў па ўсіх пытаннях трэба праводзіць такую палітыку, каб яна прыцягвала людзей. Гарвыканкам Маладзечна працуе ў пастаянным кантакце з мясцовай арганізацыяй ТБМ».

А. Шамак выступіў з вострай крытыкай Рэспубліканскай Рады Таварыства і адзначыў, што газета «Наша слова» не стала з'явай у рэспубліканскім друку. Ён прапанаваў надалей праводзіць з'езды ТБМ штогод, ліквідаваць сакратарыят ТБМ.

Палкоўнік У. Танана падвёў вынікі патрыятычнага выхавання ў войску. Праўда, з вывучэннем роднай мовы пакуль недахопаў больш, чым поспехаў. На сённяшні дзень выпушчана першая і другая часткі дапаможніка па гісторыі для вайскоўцаў і рыхтуецца такі ж дапаможнік па роднай мове. Прызнаўшы, што ў войску беларуская мова вывучаецца дзе горш, дзе лепш, а ў вайсковых бібліятэках амаль зусім адсутнічае родная літаратура, палкоўнік Танана выказаў асаблівую заклапочанасць тым, што работа над стварэннем тэрміналагічных слоўнікаў ідзе вельмі марудна. Ён прапанаваў з'езду звярнуцца да Савета Міністраў РБ з хадайніцтвам паскорыць выданне вайсковых тэрміналагічных слоўнікаў.

Спадарыня Т. Гарэлікава пачала з канстатацыі таго факту, што рэспубліканскае радыё і асабліва тэлебачанне ўсё яшчэ застаюцца рускамоўнымі. Што да школ, то, на яе думку, у першую чаргу іх трэба забяспечыць арыгінальнымі (а не перакладнымі) падручнікамі, а ТБМ павінна стаць грамадскім кантралёрам беларускай нацыянальнай школы.

Выступленне У. Вяроўкіна было крытычным. Ён выказаў незадаволенасць работай Цэнтральнай Рады ТБМ, яе выдавецкай дзейнасцю, у т. л. і газетай «Наша слова».

У адрозненне ад свайго папярэдніка магіляўчанін А. Булавацкі выказаў думку, што і ў сталіцы і на месцах ТБМ імя Ф. Скарыны адыгрывае ўсё больш прыкметную ролю ў грамадскім жыцці. Яго аўтарытэт істотна расце. Праўда,— адзначыў прамоўца,— адміністрацыйная паспешлівасць часам шкодзіць справе. Так, напрыклад, атрымалася ў Магілёве, калі адну з сярэдніх школ без адпаведнай падрыхтоўкі абвясцілі беларускай гімназіяй. На справе ж беларуская там — адна толькі назва.

Вялікую зацікаўленасць выклікала выступленне старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ, народнага дэпутата РБ А. Трусава. Ён нагадаў, што асобныя дэлегаты з'езда прапануюць выбраць новага старшыню ТБМ. Аднак ад гэтага, зазначыў сп. Трусаў, дзейнасць нашага Таварыства не палепшыцца, бо шматгадовая работа Ніла Гілевіча на карысць нацыянальнага Адраджэння агульнавядома. Прамоўца прызнаў, што работа Таварыства аслабла, па-першае, таму, што значная частка актывістаў стала займацца выключна палітычнай дзейнасцю, а па-другое, таму, што па-за ўвагай засталася будзённая праца суполак па выхаванні нацыянальнай свядомасці грамадзян рэспублікі. Дзеля больш аператыўнага кіраўніцтва ён прапанаваў скараціць колькасць сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ да 30—35 чалавек, а таксама стварыць у бліжэйшы час абласныя арганізацыі ТБМ.

Вядомы сваёй гуманітарнай дапамогай ахвярам Чарнобыля айцец А. Надсан напачатку сказаў: «Без беларускай мовы я не бачу незалежнай беларускай дзяржавы». Ён шчыра падзякаваў старшыні Таварыства Нілу Гілевічу за абарону ім роднай мовы. Святар падкрэсліў, што на Захадзе ў большасці выпадкаў яшчэ пануе стары падыход, старыя погляды на Беларусь. Ды як можа быць інакш, калі некаторыя беларускія міністры пры наведванні заходніх краін на афіцыйным узроўні размаўляюць на расійскай мове. Не спрыяе росту аўтарытэту суверэннай Беларусі і тое, што прызначаная для замежжа даведачная літаратура пра нашу рэспубліку вельмі не дакладная. Добрым з'яўляецца тое, што ўжо дасягнута дамоўленасць аб прыездзе ў Вялікабрытанію на вучобу першай (невялікай) групы беларускіх студэнтаў. Кожны з іх абавязкова павінен валодаць роднай мовай. На заканчэнне госць з Англіі паведаміў, што ў Лондане ўжо робіцца пераклад усіх літургічных набажэнстваў на беларускую мову.

Г. Пяткевіч са Стоўбцаў у сваім выступленні закрануў пытанне практычнай работы суполак і арганізацый Таварыства на месцах. Ён прызнаў, што шмат дзе назіраецца спад іх дзейнасці. Актывістам Таварыства відавочна не хапае самаахвярнасці ў працы. Адмоўна ўплывае і пазіцыя ўрада, дзе, на яго думку, «правяць баль» антыбеларускія элементы. Беларуская мова ў школах раёна прыжываецца не вельмі добра, і органам народнай адукацыі прапанавана палепшыць работу, ажыццявіць канкрэтныя захады, «каб кожны вучань ужо з 1 верасня г. г. змог адчуць сябе беларусам».

Міністр замежных спраў РБ П. Краўчанка на пачатку свайго выступлення зазначыў: «Мы не прыніжаная, а гордая нацыя... Толькі тое, што яднае беларусаў сёння, павінна быць на першым плане». Спадар Краўчанка прызнаў, што практыка рэалізацыі Закона аб мовах пераконвае ў тым, «што беларусізацыя ў нас пакуль не атрымалася». З боку Міністэрства замежных спраў робіцца шмат, каб родная мова пашыралася ва ўжытку. Так, усе нашы афіцыйныя дакументы рыхтуюцца па-беларуску. Практычна кожны дзень у міністэрстве ідзе праца з беларускай інтэлігенцыяй. За сродкі міністэрства вырашана адкрыць помнік Ф. Скарыне ў Празе. Міністр падкрэсліў, што яго супрацоўнікі прыкладаюць усе намаганні, каб адшукаць і вярнуць на Бацькаўшчыну гістарычныя каштоўнасці, якія ў розны час апынуліся на Захадзе. З вуснаў спадара Краўчанкі прагучала сенсацыйнае паведамленне: «Мы, здаецца, наблізіліся да слядоў славутага крыжа Ефрасінні Полацкай». Напрыканцы выступлення міністр запэўніў прысутных, што ніколі не пагодзіцца з увядзеннем беларускай мовы ў якасці другой дзяржаўнай.

Ад Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ выступіў сп. М. Кадыка. Падсумаваўшы вынікі работы Таварыства ў сваім горадзе, ён паставіў з'езду наступнае пытанне: «Чаму ў зале не прагучалі звесткі па міністэрствах, абласных і гарадскіх выканкамах Беларусі, якія ў практычнай рабоце ўжо перайшлі (ці не перайшлі) на родную мову?» Для рэальнага ажыццяўлення Закона аб мовах дэлегат прапанаваў стварыць пры Вярхоўным Савеце асобны дэпартамент па моўнай палітыцы.

М. Антоненка, прадстаўнік Беларускай сялянскай партыі, адзначыў, што яго партыя катэгарычна выступае супраць дзяржаўнага двухмоўя ў рэспубліцы. Ён таксама пераканаены, што прапанова прэм'ер-міністра В. Кебіча ўтварыць вайсковы саюз Расіі, Казахстана і Беларусі тоіць для рэспублікі вялікую небяспеку. Гэта добра разумее значная частка грамадзян. Таму, відаць, нядаўнія сацыялагічныя апытанні засведчылі, што зараз звыш палавіны нашых выбаршчыкаў не падтрымліваюць цяперашні склад Вярхоўнага Савета.

Дэлегат ад Гомельскай гарадской рады ТБМ У. Стрыгуцкі таксама гаварыў пра нездавальняючы ход выканання Закона аб мовах, выказаў агульную заклапочанасць яе станам: «На якой мове гаворыць наша правінцыя? Гэта — не руская мова, але ж і не беларуская. Выходзіць, што наш народ знаходзіцца ў невуцтве. А змагацца з невуцтвам павінна ўлада. Але ў рэспубліцы няма ніводнага выпадку хоць якога пакарання за невыкананне Закона аб мовах». Далей прамоўца прывёў нядаўні выпадак, калі ў адной з гомельскіх газет з'явілася невялікая нататка, дзе выказвалася нязгода трансляцыі на Беларусь яшчэ аднаго рускамоўнага тэлеканала — Санкт-Пецярбургскага тэлебачання. Але праз колькі дзён тая ж самая газета надрукавала матэрыял, напісаны ўплывовым чыноўнікам апарата... Вярхоўнага Савета Расіі (!), які выказаў абурэнне першай нататкай, адкрыта абвінаваціўшы яе аўтара ў нацыяналізме.

Падпалкоўнік С. Суднік канстатаваў, што дагэтуль у нашай рэспубліцы няма сваёй сучаснай вайсковай тэрміналогіі на роднай мове, без якой стварэнне ўласнага нацыянальнага войска не ўяўляецца мажлівым. Тыя беларускамоўныя дапаможнікі для вайскоўцаў, што былі створаны ў 20-ыя—пачатку 30-ых гадоў, састарэлі, бо самі ўзброеныя сілы непазнавальна змяніліся. Але нацыянльна свядомыя афіцэры — ураджэнцы Беларусі, якія служаць у розных часцях і злучэннях, самі стварылі новы шыхтавы (страявы) статут, распрацавалі слоўнік найбольш пашыраных вайсковых тэрмінаў. Праўда, адзначыў падпалкоўнік, у згаданай справе мы далёка не заўсёды знаходзім паразуменне з прадстаўнікамі нашага Міністэрства абароны.

Бібліятэкар С. Вадап'ян (Круглянская арганізацыя ТБМ) падзялілася вопытам далучэння да роднага слова дзяцей і падлеткаў. Так, працягам трох апошніх гадоў супрацоўнікі аб'яднанай бібліятэчнай сістэмы раёна рэгулярна праводзілі з імі заняткі па беларускай мове і літаратуры. Усе бібліятэкі нашага раёна, падкрэсліла С. Вадап'ян, даўно карыстаюцца роднай мовай. Бібліятэкар папракнула «Наша слова» ў тым, што газета слаба распаўсюджвае перадавы вопыт актывістаў ТБМ, выказала незадаволенасць пасіўнасцю значнай часткі пісьменнікаў рэспублікі, якія, на яе думку, амаль нічога не робяць для прапаганды беларускай кніжкі.

Галоўны сакратар ТБМ сп. Я. Цумараў, зрабіўшы кароткі аналіз дзейнасці сакратарыята ТБМ за справаздачны перыяд, рэзка выказаўся на адрас сталічнай арганізацыі Таварыства, некаторыя дэлегаты якой паводзяць сябе на з'ездзе, мякка кажучы, неканструктыўна. «Можна, вядома, крытыкаваць,— сказаў Цумараў,— работу Рэспубліканскай Рады ТБМ, але не варта забываць, што ў свой час мы самі яе

# ДЗЯРЖАЎНУЮ МОЦ І АЎТАРЫТЭТ



выбіралі. Дзе былі сябры Менскай рады, калі яна фактычна спыніла сваё існаванне?» А пэўныя хібы і недахопы ў рабоце Рэспубліканскай Рады прамоўца растлумачыў тым, што тыя некалькі штатных супрацоўнікаў, якія стала працуюць у сакратарыяце ТБМ, вымушаны займацца пераважна гаспадарчай дзейнасцю, бо дзяржава не выдаткоўвае сродкаў на фінансавае забеспячэнне Таварыства.

Намеснік міністра адукацыі В. Стражаў (якраз ён падпісаў згаданы ліст рэктарам беларускіх ВНУ) без бачнага поспеху паспрабаваў апраўдацца перад залай. Заявіў, у прыватнасці, што гэты ліст не насіў правакацыйнага характару, а меў на мэце звычайнае апытанне кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі. «У Міністэрстве адукацыі,— запэўніў сп. В. Стражаў,— няма ворагаў роднай мовы».

Сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ В. Вячорка ў сваім выступленні адзначыў, што Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны стваралася ў пераходны час. Таму яно спалучае старыя і новыя метады, формы работы. Так, на ўзроўні сваіх рэспубліканскіх структур мы мелі значныя правалы ў працы. Што да раёнаў, то там суполкі і арганізацыі ТБМ часта ствараліся зверху, на плённую дзейнасць іх спадзявацца не выпадае. Сп. В. Вячорка кароткa спыніўся на газеце «Наша слова». Ён лічыць, што газета стала горшай за тую, якая выходзіла напачатку. «Газеце,— сказаў аратар, — не хапае прафесійнай рукі». З трыбуны ўсё ж прагучала, што газета і сёння мае станоўчы палітычны накірунак. В. Вячорка пакрытыкаваў работу шматлікіх камісій ТБМ, з якіх на справе сяк-так працуюць толькі некалькі.

Сп. Ю. Гіль — сакратар ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю (там, як вядома, зараз стала жыве звыш 60 тысяч беларусаў) — прызнаў, што на Беларусі Закон аб мовах не выконваецца. Ён лічыць, што вінаваты ў гэтым дзяржаўныя службоўцы, абсалютна абыякавыя да праблем нацыянальнага Адраджэння. У якасці ўзорнага і паслядоўнага выканання моўнага заканадаўства дэлегат з Вільні прывёў прыклад суседняй з намі Літвы, дзе ніводная дзяржаўная ўстанова нават не стане разглядаць любыя дакументы ад сваіх грамадзян і ўстаноў, напісаныя не па-літоўску. На думку сп. Ю. Гіля, нацыянальнае адраджэнне беларусаў Віленшчыны носіць пакуль дэкларатыўны характар. Не спрыяюць гэтаму працэсу і пастаянныя непаразуменні, якія існуюць паміж рознымі беларускімі арганізацыямі Віленшчыны.

Эмацыянальным атрымалася выступленне намесніка старшыні БНФ сп. Ю. Хадыкі. Ён пагадзіўся з тым, што «ёсць за што крытыкаваць ТБМ, але ж на рахунку гэтай арганізацыі ёсць і вельмі добрыя справы». Прамоўца падкрэсліў, што ў адпаведнасці са сваім Статутам ТБМ імя Ф. Скарыны не з'яўляецца палітычнай арганізацыяй. Але ж як ацаніць нейтралітэт ТБМ у такім найважнейшым пытанні, як пытанне аб рэферэндуме, супрацьзаконна адхіленае пракамуністычнай большасцю нашага Вярхоўнага Савета? Сп. Ю. Хадыка таксама паведаміў, што ў складзе спецыяльнай камісіі ён удзельнічаў у праверцы выканання Закона аб мовах у Белдзяржуніверсітэце. У выніку большасць камісіі аднадушна прыйшла да высновы, што ў ВНУ нашай рэспублікі неабходна мадэрнізаваць усе без выключэння навучальныя дысцыпліны гуманітарнага цыкла.

На другі дзень III з'езда ТБМ першым на трыбуну выйшаў галоўны рэдактар газеты «Наша слова» Эрнэст Ялугін. Адказваючы на пытанні, што напярэдадні прагучалі ў некаторых выступленнях і былі адрасаваны рэдакцыі, ён расказаў пра ўмовы, у якіх ствараецца газета. Адзначыў, што на старонках «Нашага слова» кожны мае права выступіць са сваёй думкай, напрыклад, пра адносіны да тарашкевіцы, і тое, што нехта не выкарыстоўвае газету для канкрэтнай палемікі, варты толькі шкадавання. Ён таксама заклікаў сяброў ТБМ больш актыўна і творча выкарыстоўваць у сваёй працы газетныя публікацыі, у тым ліку звароты рэгіянальных суполак да ўладаў. Іх, як і некаторыя канцэптуальныя матэрыялы, варта было б абмяркоўваць на сходах суполак, выказваючы салідарнасць і, магчыма, нейкія прапановы ўдакладняючы ці ўзбагачаючы. Э. Ялугін падзяліўся далейшымі планамі рэдакцыі і выказаў спадзяванне на актыўнае супрацоўніцтва сяброў Таварыства з газетай.

Слова ўзяў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Ён падтрымаў рэдакцыйную палітыку галоўнага рэдактара газеты «Наша слова». У выступленні прагучала трывога, што ў нас на з'ездзе з'явіліся свае Хасбулатавы, якія рвуцца да ўлады, у той час калі трэба больш рабіць, а не шумець.

Спадар І. Карэнда з Міністэрства інфармацыі прывёў вельмі сумныя лічбы. Так, у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 647 выданняў. З іх толькі 142 беларускамоўныя, у гэтую колькасць уваходзяць і 82 раённыя газеты.

Вынікі спрэчак па першым пытанні падагуліў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч. Адзначыўшы канструктыўнасць многіх выступленняў, ён, тым не менш, заклікаў да большага паразумення апанентаў, бо часам залішняя эмацыянальнасць і катэгарычнасць можа перашкодзіць ім пачуць адзін аднаго. Але ж працуем мы ўсе дзеля адной вялікай справы — духоўнага адраджэння Айчыны.

Другім у парадку дня стаяла пытанне аб удасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы.

Першым на трыбуну выйшаў сакратар камісіі па ўдасканаленні правапісу ТБМ імя Ф. Скарыны Сяргей Запрудскі. У сваім выступленні (надрукавана ў «Нашым слове», № 15) ён адзначыў, што на разгляд з'езда выносіцца не праект па беларускім правапісе, а толькі некаторыя пункты, па якіх у камісіі дасягнута большая ці меншая згода. Прапанаваныя рэкамендацыі, а яны складаюцца з 13 пунктаў, сябры камісіі лічаць прамежкавым вынікам сваёй дзейнасці. Рэкамендацыі камісіі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы былі папярэдне раздадзены ўсім дэлегатам з'езда, і кожны мог з імі азнаёміцца. «Наша слова» іх надрукавала ў мінулым нумары. З невялікім дакладам «Трэба змірыцца з суіснаваннем дзвюх правапісных нормаў» выступіў (выступленне надрукавана ў «Нашым слова», № 15) доктар філалагічных навук, старшыня камісіі па ўдасканаленні правапісу Генадзь Цыхун. Яго адносіны да ўдасканалення правапісу вызначаны ў самой назве даклада.

Затым вядучым з'езда Алегам Трусавым было прапанавана прыступіць да спрэчак. Грунтоўных спрэчак на тэму ўдасканалення правапісу, на жаль, не атрымалася, хаця і выступіла некалькі чалавек. Так, галоўны рэдактар часопіса «Бярозка» Вячаслаў Адамчык расказаў пра тое, што выданне, дзе ён працуе, ужо год выходзіць на тарашкевіцы. На тарашкевіцу перайшлі часопіс «Мастацтва» і часткова «Спадчына». Прамоўца тэмпераментна агітаваў прысутных за тарашкевіцу. У зале пачуўся выкрык, што трэба з'езду прыняць пастанову аб пераводзе і «Нашага слова» на тарашкевіцу.

Выкрыкаў з месцаў на III з'ездзе ТБМ было нямала. Быў і такі, што наш новы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Каліноўскага (меўся на ўвазе шаноўны Мікола Ермаловіч) не вельмі паважае тарашкевіцу. На гэты выпад Мікола Ермаловіч сказаў амаль тое, што ў нядаўнім інтэрв'ю карэспандэнту «ЛіМа» народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў: «Нацыянальна свядомая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык — Тарашкевічавай і наркамаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расейскае аднамоўе».

Паколькі на абмеркаванне правапісу часу засталося вельмі мала (большасць ужо думала пра выбары новай Рэспубліканскай Рады ТБМ), то было вырашана па пунктах, якія ў дэлегатаў выклікалі пытанні або асаблівыя пярэчанні, дыскусію не распачынаць. З'езд прыняў пастанову падтрымаць пункты 1—4, 6—9, 11—12 рэкамендацый, падрыхтаваных камісіяй па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы, і перадаць іх дзяржаўнай камісіі, якая мае быць створана дзеля заканадаўчага ўрэгулявання беларускага правапісу.

Затым адбыліся выбары старшыні і сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны аднагалосна абраны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Распрацоўка плана работы ТБМ на 1993 год была даручана новаму складу Рэспубліканскай Рады Таварыства, першае пасяджэнне якой адбылося 15 красавіка. Матэрыялы з пасяджэння будуць змешчаны ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».

Наш карэспандэнт.

## *Як я ў Гомелі святкаваў абвяшчэнне БНР*

У нас, каб даведацца пра сапраўды нацыянальную падзею мінуўшчыны, трэба добра паварушыцца. Мы ж не палякі і не летувісы, якія шануюць уласную гісторыю. Вось і пра тое, што ў Гомелі будуць па-людску адзначаць 75-ыя ўгодкі абвяшчэння БНР, я даведаўся зусім не дзякуючы гарадскім сродкам масавай інфармацыі, а ад знаёмых. Сказалі, што ўрачыстасць адбудзецца ў Палацы будаўнікоў, што на вуліцы Першамайскай.

Прыйшоў на ўсякі выпадак раней, а там ціха. Думаю сабе: а мо не туды трапіў? А ля ўваходу таўчэцца купка мужчын пенсійнага ўзросту, на тварах разгубленасць. Чую выказванні. Адзін: «Так где же они собираются?» Другі: «Да вроде, на Центральной площади». Трэці: «Нет, возле цирка». Першы: «Ну, пойду на разведку... Нет, всем идти не надо, не будем им создавать массовость...» Я хуценька накіраваўся на плошчу, потым да цырка. Нікога. Вяртаюся да Палаца, а там нехта з бел-чырвона-белым сцягам, і людзі вакол па-беларуску размаўляюць. Я ўзрадаваўся: свае! І пенсіянеры знаёмыя побач. Крычаць. Адзін: «Это британская разведка дала указание образовать БНР!» Другі: «Так же как ЦРУ организовало СНГ, чтобы развалить СССР...»

Зайшоў нарэшце ў Палац. Народ размаўляе па-беларуску. Прамовы з трыбуны пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі таксама гучаць на роднай мове. А потым і канцэрт быў добры. Так што ўвогуле ў Гомелі нябдага адсвяткавалі 75-ыя ўгодкі абвяшчэння незалежнай Беларусі.

Максім ПУРАНОК.

г. Гомель.

## Урачыстая вечарына ў Наваградку

*25 сакавіка г.г. у гарадскім Доме культуры адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 75-ым угодкам абвяшчэння БНР. Арганізатарамі свята з'явіліся мясцовыя рады ТБМ імя Ф. Скарыны і БНФ. З уступным словам да прысутных звярнуўся намеснік старшыні раённай рады БНФ і старшыня суполкі ТБМ «Узвышша» спадар В. Стома. Кароткі змястоўны агляд гістарычных падзей, звязаных з абвяшчэннем БНР у 1918 годзе, зрабіў дырэктар Ваўкавіцкай сярэдняй школы В. Шэдзь. Затым адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці вучняў і настаўнікаў гэтай школы. Са сцэны гучалі вершы беларускіх паэтаў, нашы цудоўныя народныя песні.*

*Нельга не адзначыць, што ўсіх здзівіла адсутнасць у зале прадстаўнікоў гарадскіх і раённых улад. Дарэчы, мясцовае радыё і раённы друк таксама праігнаравалі свята і вечарыну. Адзінай крыніцай інфармацыі аб намечаным святкаванні ўгодкаў абвяшчэння БНР сталі ў Наваградку самаробныя аб'явы, якія на людных месцах былі напярэдадні расклееныя тутэйшымі актывістамі БНФ і ТБМ.*

Аляксандр ПЯТРЫНА.

г. Наваградак.

## Варта аднавіць хоць крыжы

Пішу гэта ў Казахстане, успамінаю... Якое шчасце было жыць у маёй роднай вёсачцы Сянёнцы, што ў сярэдзіне шматкутніка Чэрыкаў — Крычаў — Клімавічы — Касцюковічы — Краснаполле. Там толькі пяць хатак. Тры вярсты да школы па полі, праз лес і рэчку, якая ў паводку вельмі борздая. Я сярод сямі сваіх аднакласнікаў з Гуты, Астравоў, Чудзян, Лысаўкі, Вепрына. І настаўніца што матка родная: прыгледзіць, каб паеў, не загуляўся. Вяртаешся восенню — сліўкі духмяныя ў садах, брусніцы на прыпёку, а потым хмарна, коўзка, усё ацiхла... Увечары праз зімовы лес выходзіш у поле — ваўкі зіхацяць вачыма на ўзвышшы... Вясна! Яна ў кожнай новай праталіне вакол конскага гною на шляху, вакол дрэў, у першым тумане і дзіўнай кветачцы сон... А лета пачынаецца з лісічак.

А ў пятым класе ўжо трэба было жыць у Малінаўскім інтэрнаце, дахаты вяртацца толькі ў нядзелю... З нецярплівасцю чакалася Радаўніца, калі дадому, да могілак дзедаўскіх імкнуліся ўсе, ад малога да старога, пакуль вёска жыла. А зараз яна памерла. Разам з хлапчукамі, якім трэба было вучыцца спачатку ў Малінаўцы, потым у Магілёве... потым будаваць штосьці недзе вялікае. Ужо і школы першай няма, і хтосьці наш лес на паперу звёў, рэчка знікла, апошнія бабулі дажылі разам са сваімі хаткамі ў сваіх вёсачках. І змагаюцца толькі дзе-нідзе крыжы за нашу памяць побач з месцамі, што нас узгадавалі. А мы, навучаныя ў школе, што атрымалі вялікую Радзіму «от Москвы до самых до окраин», толькі цяпер пачалі заўважаць, што ў кожнага забрана маленькая — гэтыя Сянёнкі, Чудзяны, Вепрыны, якія разам з дзядамі не давалі памерці нашаму духу, мове. Дык адновім хоць крыжы каля іх. Няхай будуць напамінам нам і дакорам тым, хто змагаўся за наша знішчэнне.

Валянцін ЖАБЫКА.

г. Алма-Ата.

*Старыя беларускія гімназіі*

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ*

# СВЯТЛО З ВІЛЬНІ

На мяне велізарнае ўражанне зрабілі артыкулы Леанілы Марціновіч і Вольгі Мароз. Хацелася б, каб яны пра Віленскую беларускую гімназію пісалі ды пісалі. І не толькі таму, што гэтых шаноўных спадарынь я ведаю па фатаграфіях і апавяданнях сваёй старэйшай сястры Веры, якая вучылася разам з імі ў гімназіі, а і таму, што іх успаміны перадаюць сапраўдны дух беларускай навучальнай установы, патрыятызм выкладчыкаў і гімназістаў, нейкую іх вышэйшасць у параўнанні з намі — выпускнікамі савецкіх тэхнікумаў, школ ды інстытутаў, даюць звесткі пра тых людзей, якія самаахвярна выхоўвалі ў дзецях сялян, рабочых ды інтэлігенцыі святы патрыятызм, духоўнасць, інтэлігентнасць, чалавечнасць. На жаль, у беларускай гімназіі я не вучыўся (быў яшчэ малы), тым не менш магу сказаць: калі штосьці і ўдалося мне зрабіць у жыцці, не стаць алкаголікам, жулікам, партакратам, то толькі дзякуючы выпускнікам Віленскай гімназіі, з якімі ўвесь час зводзіў мяне лёс. Акрамя спадарынь Леанілы і Вольгі, я ведаў Валю Кужалевіч, Вольгу Крака, Змітрака Жалезняковіча, Зою Глаз, Уладзіміра Макоўскага. Памятаю, як спадарыня Марціновіч была ў нас у гасцях і якое гэта для мяне было вялікае свята, бо я ўсё жыццё маліўся на выпускнікоў Віленскай беларускай гімназіі і сваім вучням распавядаў, якія яны былі, як шанавалі гонар сваёй навучальнай установы.

Так, у Польшчы гімназісты насілі на рукаве «тарчу» — значок з вензелем і нумарам. У маёй сястры, напрыклад, на «тарчы» былі пераплеценыя літары «Ю» і «С», паколькі Віленская беларуская гімназія ў апошнія гады свайго існавання была пазбаўлена самастойнасці — яе зрабілі філіялам польскай гімназіі імя Юліуша Славацкага. «Тарча», па сутнасці, адыгрывала ролю візітнай карткі. Кожны, зірнуўшы на значок гімназіста, даведваўся, з якой ён гімназіі і які яго парадкавы нумар. Гэта абавязвала гімназістаў да добрых паводзін. Кожны імкнуўся вызначыцца ветлівасцю, выхаванасцю, дабрынёй. Спадар Макоўскі, з якім я пазнаёміўся на рэспубліканскіх курсах выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, успамінаў: «Як мы выходзілі з гімназіі ў горад, то ніхто з нас не ўжываў грубага слова, не допускаў нетактоўнасці, не курыў. Пры самым нязначным парушэнні этыкету мы накідваліся на сябра: «Ты што, забыўся, што вучышся ў беларускай гімназіі? Што пра нас скажуць людзі?»

Імкненне пры самых дрэнных, неспрыяльных абставінах захаваць чалавечую годнасць, не скампраметаваць сваю гімназію, сябе і свой народ прывучала да самадысцыпліны. Мы і цяпер не здольны на хамскі ўчынак».

Лічу, што нашым беларускім школам варта запазычыць і гэтыя «тарчы» і метады выхавання інтэлігентнасці ды патрыятызму.

Вялікую ўдзячнасць я захаваў у сэрцы да сваёй нябожчыцы сястры Верачкі. Пад яе ўплывам ужо дзевяцігадовым хлопцам я быў гатовы аддаць жыццё за родную Беларусь. Памятаю цёмную ноч на пачатку верасня 1939 года. Тата з суседам выкапалі вялікую яму і хаваюць туды свае куфры, кублы з салам, лепшае адзенне на выпадак, калі прыйдзе фронт і згарыць хата,— то каб было за што рукі зачапіць. Навокал зарывы — немцы бамбяць беларускія гарады. Палаюць Гародня, Ваўкавыск, ірвуцца бомбы ў Беластоку. Зямля раз-пораз уздрыгвае. Мне і сястры вельмі страшна, мы дрыжым так, што цяжка слова вымавіць. Верачка пытае:

— Ці здолеў бы ты цяпер аддаць жыццё за Беларусь?

Я задумаўся і цвёрда адказаў:

— Так, я аддаў бы.

Пра гэты адказ не забываўся ніколі. Упэўнены, што сказаў праўду.

Верачка была цудоўным чалавекам. І сёння людзі прыгадваюць яе незвычайную дабрыню, светлы розум, педагагічны талент, непараўнальную знешнюю прыгажосць. У гімназіі яна была актыўнай удзельніцай патрыятычнага гуртка «Жыве Беларусь», які змагаўся супраць гвалтоўнай паланізацыі. Пры ўсіх уладах — за палякамі, за немцамі і за саветамі— праводзіла адраджэнскую прапаганду. Віленская гімназія на пачатку навучальнага трыццаць дзевятага года была закрыта польскімі ўладамі, і сястры давялося працягваць вучобу ў Навагрудскай сярэдняй школе. Праз нейкі час яе адтуль забралі бацькі, бо сям'ю меліся вывезці ў Сібір. Наш малазямельны бацька ў дваццатыя гады з'ездзіў у Амерыку, зарабіў там грошай, а вярнуўшыся, купіў чатыры гектары зямлі і пабудаваў хату, у якой я цяпер і жыву. Пры савецкай уладзе гэта лічылася злачынствам.

Далей сястра вучылася самастойна. Акрамя роднай мовы, яна добра ведала нямецкую, польскую і рускую, шмат чытала. У час нямецкай акупацыі ў сваёй хаце нелегальна вучыла дзяцей па савецкіх падручніках (інакшых не было). У яе было дзесяць вучняў, і ўсе яны потым скончылі сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Пасля вайны Верачка працавала ў Гудзеўскай школе выкладчыцай беларускай і нямецкай моў, вучыла таксама пачатковыя класы. Яе часта выклікалі ў КДБ, аднак не арыштоўвалі, магчыма таму, што карысталася вялікім аўтарытэтам у насельніцтва. Яе баранілі мацяркі тых вучняў з падпольнай школы, бацькоў якіх расстралялі фашысты. Вера Мікалаеўна не выходзіла замуж, бо была вельмі хворая. Памерла ў траўні сорак восьмага года.

Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка, Браніслаў Тарашкевіч, Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, Ларыса Геніюш, Міхась Явар прыйшлі да мяне праз Верачку, а гэта значыць, праз Віленскую беларускую гімназію. У 1965 г. пры дапамозе Уладзіміра Макоўскага мне ўдалося наладзіць у Саюзе пісьменнікаў БССР сустрэчу нашага курса з беларускімі пісьменнікамі, зрабіць яшчэ шэраг добрых спраў. Тады сябра Макоўскі сказаў мне: «Трэба варушыцца, паказваць, што мы жывём, бо паспрабуй некалькі дзён не дыхаць — пахаваюць». З гэтай сустрэчы я пачаў адкрытую барацьбу супраць русіфікацыі беларусаў. Хацеў арганізаваць шэраг пратэстаў у ЦК КПБ, каб паказаць бязглуздасць русіфікатарскай палітыкі КПСС. Хлопцы казалі, што гэта не дапаможа, а я ўсё ж такі пратэст напісаў, чым выклікаў на сябе агонь з боку партыйных і савецкіх органаў улады. Тады я пачаў ствараць кабінет беларускай мовы і літаратуры, а калі матэрыялаў сабралася многа — аформіў з вучнямі Гудзеўскі літаратурна-краязнаўчы музей. У тым жа 1965 г. арганізаваў літаратурна-краязнаўчы гурток. Першыя вершы гудзеўскіх вучняў, іх апавяданні, нарысы датуюцца 1965 годам. У 1966 годзе мы выдалі першы нумар літаратурна-краязнаўчага альманаха «Праменьчык». За 23 гады выйшла чатырнаццаць нумароў...

Лічу, што «Наша слова» робіць добрую справу, друкуючы ўспаміны навучэнцаў старых беларускіх гімназій. Справу гэту варта працягваць. Выказваю шчырую падзяку і пашану народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю, які вядзе гэту рубрыку ў газеце.

**Алесь БЕЛАКОЗ.**

*На ніве Адраджэння*

# Следам за размоўнікамі — энцыклапедыя «Беларуская мова»

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

каў, каб выбраць высокамастацкія літаратурныя дыялогі. У размоўніку ёсць раздзел «Сопоставительные лексико-грамматические заметки», у якім расказваецца пра асаблівасці беларускай мовы ў параўнанні з рускай з мэтай даць чытачу ўяўленне аб правілах беларускага вымаўлення, а самае галоўнае, паказаць, што меркаванне, быццам беларуская і руская мовы тоесныя паміж сабой,— памылковае. Тонкасці разыходжання паміж мовамі трэба ўлічваць, падкрэсліваць і спецыяльна вывучаць, бо менавіта яны ствараюць нацыянальны дух мовы. У размоўніку змешчана шмат беларускіх прыказак. Атрымаўся спецыфічны размоўнік з пункту гледжання яго будовы.

**— «Англа-беларускі размоўнік» мае некалькі іншую структуру. Але чаму Вы спыніліся на выданні англа-беларускага, а не беларуска-англійскага размоўніка?**

— Была задума зрабіць размоўнік для беларусаў за мяжой і ўвогуле для ўсіх тых, хто добра валодае англійскай мовай і можа праявіць цікавасць да беларускай мовы і культуры, а таксама ўдасканаліць веданне беларускай мовы. Таму мы падрыхтавалі «Англа-беларускі размоўнік». Ён можа быць выкарыстаны таксама ў якасці дапаможніка і для тых, хто вывучае англійскую мову.

Канцэпцыя пабудовы размоўніка своеасаблівая. Яго тэматычныя раздзелы скіраваны на тое, каб даць першапачатковае ўяўленне пра гісторыю і геаграфію Беларусі, яе народную гаспадарку, культуру і навуку, грамадска-палітычнае жыццё. Асобны раздзел «Беларуская мова» змяшчае кароткія звесткі пра фанетыку, граматыку, лексіку і фразеалогію нашай мовы. Размоўнік мае лінгва-краязнаўчы ўхіл. Працу над ім распачалі 5 гадоў назад. У яго складанні, акрамя мяне, удзельнічалі Н. М. Навічэнка і двое англічан, якія прагледзелі ўсе англійскія тэксты. Размоўнік зрабілі даволі хутка, але ён доўга ляжаў у выдавецтве «Навука і тэхніка».

**— Пэўна, з-за фінансавых цяжкасцей?**

— Так, выдаць «Русско-белорусский разговорник» было значна прасцей, бо выдавецтва «Вышэйшая школа» падтрымлівала гэтую ідэю. Пры выданні «Англа-беларускага размоўніка» мы сутыкнуліся з такімі праблемамі, як недахоп паперы, цяжкасці з фінансаваннем і г.д.

**— На мой погляд, у размоўніку ёсць пэўныя недахопы, сустракаюцца памылкі друку.**

— Ёсць недахопы, якія я добра ўсведамляю. Гэта меціны часу. Сёння я многае зрабіў бы інакш, нават у адборы лексікі. Шмат памылак друку. Да жніўня 1991 года была зроблена апошняя карэктура, пасля чаго ўжо ніякіх правак рабіць не дазвалялася, таму што гэта патрабуе дадатковых фінансавых сродкаў.

**— Цяпер амаль ва ўсіх навучальных установах нашай рэспублікі вядзецца пэўная работа па пераводу навучання на беларускую мову. Арнольд Яфімавіч, а як са справай беларусізацыі ў інстытуце замежных моў?**

— Мы праводзім вялікую работу ў гэтым накірунку. Створаны навукова-даследчы цэнтр «Падручнік», мэта якога— распрацаваць канцэпцыю нацыянальнай сістэмы кніжак па замежнай, а таксама па рускай як замежнай мове. Наш лексікаграфічны цэнтр упершыню выдаў англа-руска-беларускі, нямецка-руска-беларускі, французска-руска-беларускі, а цяпер рыхтуе іспанска-руска-беларускі слоўнікі. На маю думку, задача заключаецца якраз у тым, каб рабіць канкрэтныя крокі ў справе беларусізацыі навучальных устаноў. Кожная кафедра павінна выпусціць для пачатку адну-дзве лекцыі на беларускай мове. Паступова назапашваўся б матэрыял на падручнік. Я прыхільнік такой канкрэтнай работы. У інстытуце плануем адкрыць тры групы сінхронных перакладчыкаў, але не з рускай мовы, а з беларускай на замежную і наадварот. Перыядычна праводзім пасяджэнні «круглага стала» па праблемах перакладу, адно з іх нядаўна прысвяцілі французскай навеле. Але гэта толькі нязначная частка той работы, што вядзецца па беларусізацыі нашай установы.

**— Над чым Вы працуеце цяпер? Некалькі слоў пра Вашу працу па-за межамі інстытута.**

— Найперш гэта праца над кароткай энцыклапедыяй «Беларуская мова», якая ўжо здаецца ў друк. Гэта будзе ўнікальная кніга, у якой пададзены звесткі пра гісторыю нашай літаратурнай мовы, падрабязна апісаны дыялекты, выкладзена граматыка, а таксама расказваецца пра рукапісныя і друкаваныя помнікі, пра айчынных і замежных даследчыкаў нашай мовы. Па-другое, працую над складаннем кароткай граматыкі беларускай мовы, якой, на жаль, мы яшчэ не маем і якая адпавядала б двум патрабаванням: быць кароткай па змесце і даваць поўнае ўяўленне пра граматычны стан сучаснай мовы. Нядаўна да мяне трапіў ліст, у якім чалавек цікавіўся, дзе можна купіць на іспанскай мове беларускую граматыку, каб хоць трошкі пазнаёміцца з мовай, магчыма, у мінулым роднай для яго продкаў. Такая кароткая граматыка павінна ў нейкай ступені быць цікавай храстаматыяй, будавацца на жывой мове і новых навуковых прынцыпах.

**— Дзякую, Арнольд Яфімавіч, за цікавыя паведамленні, поспехаў Вам на ніве нацыянальнага Адраджэння.**

Гутарыла **Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**




## Хай Ульянаў сам звяртаецца ў суд

**Пасля адной публікацыі пра Леніна ў газеце «Баранавіцкае слова», якую выдае мясцовая філія ТБМ імя Ф. Скарыны, 60 «истинных ленинцев» падалі скаргу ў суд на аўтара артыкула, бо той назваў правадыра сусветнага пралетарыяту «тэрарыстам № 1». Аднак судовы працэс не адбыўся. Суддзя сп. Чыжэўскі заяву вярнуў, растлумачыўшы, што яна накіравана сучасным судовым органам, якія да рэпутацыі грамадзяніна Ульянава-Леніна дачынення не маюць.**

Адась КРАШЭЎСКІ.

**КОБРЫН. Сябры акцыянернага таварыства «Новы шлях» устанавілі ў вёсцы Балоты вятрак, які цяпер весела махае крыламі. Млын і сёння дапамагае вырашыць шматлікія сельскія праблемы: вяскоўцы пачалі атрымоўваць збожжа, якое і вязуць да ветрака. У выніку ў вёсцы павялічваецца пагалоўе жывёлы, а жанчыны пачалі выпякаць свой хлеб.**

Галюк ЛАЗАР.

## Медыкі пішуць вершы

**У Гомельскім медінстытуце створана літаратурнае аб'яднанне «Пульс». Яно выпусціла ў свет 5 зборнікаў. Калі медыкі пішуць вершы, то, відаць, ёсць надзея на аздараўленне грамадства.**

Галюк ЛАЗАР.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Выдатным лірыкам, песняром прыроды і чала вечых пачуццяў застаўся ў памяці нашчадкаў рускі паэт Фёдар Цютчаў (1803—1873).

*Фёдар ЦЮТЧАЎ*

## Вясновая навальніца

Люблю я навальніцу ў маі,
Калі вясновы першы гром
Свавольна, весела гуляе
І ў сінім небе б'е крылом.

Грымяць удары маладыя,
Вось кроплі ўпалі, пыл ляціць,
Павіслі перлы дажджавыя,
І сонца ніткі залаціць.

З гары бяжыць ручай імклівы,
Звініць птушыная гурма;
І шум і песень пералівы —
Туруюць весела грамам.

Ты скажаш: ветраная Геба,
Для Зеўса кормячы арла,
Грымотны, поўны кубак з неба
Ўзяла і жартам разліла.

К.Б.

Спаткаў я Вас — і ўсё былое
Ў астылым сэрцы ажыло;
Згадаў я залатыя мроі —
І ў сэрца зноў прыйшло цяпло...

Як позняй восеньскай парою
Бываюць дні, бывае час,
Калі павее зноў вясною
І штосьці страпянецца ў нас,—

Так я ў палоне летуценняў,
Што выплываюць з нематы,
Гляджу з тым даўнім захапленнем
На рысы мілай пекнаты...

Гляджу — праз тысячу расстанняў,
Гляджу на Вас, нібыта ў сне.
І вось — мацней, мацней гучанне,
Што рэхам мроілася мне...

Тут не ўспамін, адзін, раптоўны,—
Жыццё гаворыць зноў са мной,
І тая ж зноў у Вас чароўнасць,
І зноў каханне — як вясной!..

* * *

Не тое, што спасціг,— прырода:
Не зляпак, не бяздушны твар —
У ёй душа ёсць і свабода,
Каханне ёсць і мовы дар...

**Пераклад з рускай Васіля ЗУЕНКА.**

*Але!*

## Інтэрвенцыя рускамоўных выданняў працягваецца

Інфармацыйна - аналітычны аддзел Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь паведаміў, што калегія Міністэрства на сваім пасяджэнні разгледзела вынікі працы сваіх прадпрыемстваў і арганізацый у мінулым годзе. Было адзначана, што з боку Міністэрства ажыццёўлены канкрэтныя захады па падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання і перыядычнага друку, удасканаленні рэспубліканскага радыё і тэлебачання, кніжнага гандлю, сістэмы «Белсаюздруку». У цэлым па рэспубліцы выкарыстанне паліграфічных магутнасцей забяспечана на ўзроўні 1991 года. Павялічыўся выпуск кніг і брашур на беларускай мове, а таксама падручнікаў. Усяго выпушчана прадукцыі і аказана паслуг больш як на 3 мільярды рублёў, атрымана 611 мільёнаў рублёў прыбытку.

Калегія Міністэрства інфармацыі РБ прызналася, што былі дапушчаны шматлікія памылкі ў вызначэнні тыражоў кніг, у выніку чаго многія каштоўныя для справы нацыянальнага адраджэння выданні хутка знікалі з паліц кнігарняў. Творчы бок па-ранейшаму застаецца слабым месцам многіх тэле- і радыёпраграм.

Што ж, добра, што выпуск кніг на беларускай мове павялічыўся і калегія Міністэрства інфармацыі РБ бачыць, хто і як працуе на ніве Адраджэння, але ж трэба нешта рабіць з інтэрвенцыяй (іначай і нельга гэта назваць), якую вядуць расійскія, кааператыўныя і дзяржаўныя выдавецтвы на кнігарні і кіёскі нашай незалежнай краіны, выпускаючы паўмільённымі накладамі бульваршчыну ў перакладах на рускую мову. І тое, што выпушчана беларускамоўнай прадукцыі і аказана паслуг больш як на 3 мільярды рублёў — гэта смешная лічба ў параўнанні з тым, што выдадзена на рускай мове.

**В. Ш.**

*• Чыталі? •*

## Са скарбніцы беларускай культуры

**У такой серыі «Універсітэцкае» выдавецтва накладам 600 паасобнікаў выпусціла кнігу Сяргея Кавалёва «Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.». У кнізе даследуюцца паэмы Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана і іншых незаслужана забытых сёння тагачасных паэтаў, разглядаюцца канкрэтныя гісторыка-культурныя ўмовы ўзнікнення героіка-эпічнай паэзіі ў Вялікім княстве Літоўскім. Даследаванне грунтуецца на вывучэнні старадрукаў XVI стагоддзя ў бібліятэках Вільні, Санкт-Пецярбурга, Львова, Варшавы, Кракава, Вроцлава. Кніга складаецца з раздзелаў: «Гісторыка-культурныя ўмовы ўзнікнення героіка-эпічнай паэзіі Беларусі і Літвы канца XVI ст.», «Паэмы «радзівілаўскага цыклу» і «На перасячэнні з гераічнай эпікай».**

**Кніга Сяргея Кавалёва «Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.» адрасавана як філолагам, так і гісторыкам — усім, хто цікавіцца беларускай культурнай спадчынай. Застаецца пашкадаваць, што ў наш час цікавыя і карысныя кнігі выдаюцца вельмі мізэрнымі тыражамі.**

*З літаратурнай пошты*

*Юры ГУМЯНЮК*

### *Вітаўту Чаропку*

**Кітайскі бажок на пісьмовым стале.
Крыштальная шклянка напоўнена півам.
Лунаюць пачуцці ў загадкавым сне.
Дрыжыць на талерачцы костка ад слівы.**

**Глядзіш праз акно. Бачыш мёртвы ландшафт.
Зноў вусны твае прагнуць вуснаў жанчыны.
Але ў памяшканнях унутраных шахт,
здаецца, спыніліся эрамашыны.**

**Эксплозія казачных думак — міраж.
Мозг стомлены. Вочы святло праклінаюць.
Яшчэ дзве хвіліны. Пачнецца пасаж.
Мелодыя слоў. Ад краю да краю.**

*Віктар СЛІНКО*

* * *

***...Кахай, дзяўчыначка, кахай!***

**А. МАЗУР**

**Дзяўчаты з берага ракі
Пускаюць у ваду
святочныя вянкі.
Чый паплыве, а чый патоне,
Якой каханага знайсці,
якой і не.
А я ляжу на дне.
Гляджу — плывуць вянкі над галавой,
Плыве каханне нада мной...
Адной дзяўчыначкі вянок святочны
Пачаў тануць і ціха мне на твар
упаў.
Кахай мяне, дзяўчыначка, кахай!
Не ведаеш, каго кахаеш ты.**






Відаць, беларускі графік Валянціна Сідарава ў душы — казачніца. Яна вельмі тонка разумее дзіцячы свет, бачыць яго непасрэдным і радасным, як і само дзяцінства. Валянціна таленавіта ілюструе кнігі для дзятвы.

Некалькі кніг, аформленых мастачкай, па заслугах адзначаліся рознымі дыпломамі. А «Залатое пяро» па ўзроўні мастацкага афармлення нядаўна ў Вільні прызнана лепшай кнігай мінулага года. Валянціна стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу ў Вільні «Кніжная графіка-92».

**На здымках: графік Валянціна Сідарава; кніжкі, аформленыя мастачкай.**

**Фота Уладзіміра ШУБЫ.
БЕЛІНФАРМ.**



«Дажынкі», «Калядкі», «Беларускае вяселле» ў выкананні народнага танцавальнага ансамбля «Радасць» брэсцкага гарадскога Дома культуры ведаюць у многіх кутках свету. Толькі летась маршруты «Радасці» праляглі праз Тайвань, Бельгію, Германію.

Амаль тры дзесяцігоддзі ансамбль узначальвае народны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль Сераб'ёў. Цяпер калектыў рыхтуецца да новых вандровак.

НА ЗДЫМКУ: танцуе «Радасць».

Фота Эдуарда КАБЯКА.
Белінфарм.




**_Д. ДЖАРВІС: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына._**

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 9—15).*

У канцы тэмы Д. Джарвіс на прыкладах з жывёльнага свету паказвае, што якой бы выдатнай ні была спадчынная аснова арганізма, але калі яна парушаецца ў перыяд развіцця плода ва ўлонні маці непаўнацэнным харчаваннем, то жывёліна **нараджаецца слабай і недастаткова кемлівай.** Нягледзячы на пароднасць, ёй не будзе хапаць **вынослівасці і яна будзе нізкапрадукцыйнай. У жывёлы, як і ў чалавека, пры парушэнні спадчыннай асновы змяняецца** хімічны састаў арганізма, што ў сваю чаргу перашкаджае ёй прыстасавацца да навакольнага асяроддзя. Каб папярэдзіць гэта, неабходна ў рацыён жывёл дабаўляць яблычны воцат (норма для цяжарнай сабакі — 1 чайная **лыжка на суткі, для цельнай каровы — каля 6 г яблычнага воцату з трыма кроплямі ёду на 10-працэнтным растворы ёдзістага калію).**

Цяжарная жанчына павінна прымаць наступныя дабаўкі: раніцай, да снедання, выпіваць адну шклянку вады з чайнай лыжкай яблычнага воцату; у час снедання (абеду або вячэры) выпіваць шклянку вады з дзвюма чайнымі лыжкамі яблычнага воцату і дзвюма чайнымі лыжкамі мёду. На працягу трох апошніх месяцаў цяжарнасці штотыднёва па аўторках і пятніцах да гэтай сумесі дабаўляецца адна кропля **ёду.** Такі спосаб у спалучэнні з заменай пшанічнай крупы і мукі на жытнёвую і кукурузную, мёду замест цукру і г. д. забяспечыць добры **хімічны** састаў будучага дзіцяці, што яму дазволіць добра прыстасоўвацца да новага асяроддзя. З гадамі дабратворныя ўмовы развіцця арганізма **ва ўлонні маці добра** адаб'юцца на здароўі і прыстасаванасці чалавека да акаляючага асяроддзя.



## *СЯБРЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ, абраныя на III з'ездзе Таварыства і кааптаваныя ў адпаведнасці з яго рашэннем*

Вячаслаў АДАМЧЫК, Менск
Ніна АКСЁНЧЫК, Мазыр
Мікалай АНТАНОЎСКІ, Пружаны
Вадзім БОЛБАС, Светлагорск
Анатоль БУТЭВІЧ, Менск
Міхась БУЛАВАЦКІ, Магілёў
Артур ВОЛЬСКІ, Менск
Віктар ВАБІШЧЭВІЧ, Слонім
Васіль ВІЛЬТОЎСКІ, Менск
Генадзь ВІНЯРСКІ, Менск
Вінцук ВЯЧОРКА, Менск
Святлана ВАДАП'ЯН, Круглае
Ніл ГІЛЕВІЧ, Менск
Радзім ГАРЭЦКІ, Менск
Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, Менск
Руслан ГЕНІЮШ, Менск
Аляксей ГЛУШКО, Менск
Тамара ГАРЭЛІКАВА, Полацк
Марыя ГАНЧАР, Ліда
Васіль ДУБЕЙКА, Баранавіцкі раён
Сяргей ЗАПРУДСКІ, Менск
Міхась КАРПЕЧАНКА, Бялынічы
Валеры КОСТКА, Маладзечна
Алесь КАСЦЕНЬ, Паставы
Валянціна КУДЛАЦКАЯ, Верхнядзвінск
Андрэй КАЗЛОВІЧ, Кобрынскі раён
Уладзімір КАЛЕСНІК, Брэст
Лявон ЛІПЕНЬ, Менск
Марыя МАЦЮКЕВІЧ, Салігорск
Мікола МІНЗЕР, Менск
Алесь МІХАЛЕВІЧ, Менск
Айцец Ян МАТУСЕВІЧ, Менск
Мікола МІХНОЎСКІ, Менск
Дзімітры ПАЎЛАВЕЦ, Гомель
Аляксей ПЯТКЕВІЧ, Гродна
Барыс САЧАНКА, Менск
Зміцер САНЬКО, Менск
Юры СЕМАШУК, Менск
Віктар НАВУМЕНКА, Менск
Станіслаў СУДНІК, Гродзенская вобл.
Язэп СТЭПАНОВІЧ, Менск
Генадзь СОКАЛАЎ-КУБАЙ, Менск
Валянціна СІВІЦКАЯ, Віцебск
Вацлаў РУШЛЕВІЧ, Маладзечна
Усевалад ТАНАНА, Менск
Алег ТРУСАЎ, Менск
Мікалай ХАДОРКІН, Гомель
Юры ХАДЫКА, Менск
Ігар ХОМІЧ, Менск
Леанід ЦЫГАНКОЎ, Менск
Яўген ЦУМАРАЎ, Менск
Генадзь ЦЫХУН, Менск
Лявон ЦІМОХІН, Маладзечна
Аляксандр ЧЭЧАТ, Менск
Яўген ШУНЕЙКА, Менск
Віктар ШНІП, Менск
Алесь ШАМАК, Менск
Анатоль ШАСТАКОВІЧ, Менск
Эрнэст ЯЛУГІН, Менск

## *САКРАТАРЫЯТ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ, АБРАНЫ РАДАЙ ТБМ* 15 красавіка 1993 г.

Ніл ГІЛЕВІЧ, старшыня ТБМ
Яўген ЦУМАРАЎ
Сяргей ЗАПРУДСКІ
Зміцер САНЬКО
Аляксей ГЛУШКО
Алесь ШАМАК
Валеры КОСТКА
Анатоль ШАСТАКОВІЧ
Язэп СТЭПАНОВІЧ
Вінцук ВЯЧОРКА
Марыя МАЦЮКЕВІЧ
Васіль ВІЛЬТОЎСКІ
Мікола САВІЦКІ
Генадзь ВІНЯРСКІ

*На пасяджэнні Рады намеснікамі старшыні Таварыства абраны* **Яўген ЦУМАРАЎ, Сяргей ЗАПРУДСКІ, Зміцер САНЬКО.**
*Аргсакратаром зацверджаны* **В. ВІЛЬТОЎСКІ,** *рэдактарам газеты «Наша слова»* **— Э. ЯЛУГІН.**

**Зацверджаны новы склад рэдкалегіі газеты.**

## *РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ*

Мікола ЛАВІЦКІ
Тамара ДЗЕМЯНЧУК
Валянціна РАМАНЦЭВІЧ
Анатоль РАМАНОЎСКІ
Ніна ЗАГОРСКАЯ

## На ўвалях БТ

**22 КРАСАВІКА**

**16.55. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. XI клас. Гісторыка-гераічная тэма ў сучаснай беларускай літаратуры.**
**17.50. Голас. Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Гаспадар. Далейшыя шляхі беларускай эканомікі.**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**

**23 КРАСАВІКА**

**10.50. «Вобраз». Літаратурны часопіс.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.55. Слова пра Ф. Скарыну.**
**21.00. Панарама.**

**24 КРАСАВІКА**

**12.30. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**18.00. Часопісу «Маладосць» — 40 гадоў.**
**19.00. «Усе мы родам з дзяцінства». Дабрачынны канцэрт.**
**21.00. Панарама.**
**23.50. НІКа.**

**25 КРАСАВІКА**

**12.40. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.**
**13.35. Для дзяцей. Літарынка.**
**20.00. Панарама.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**
**Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8614 паасобнікаў.

**Зак. 268.**

**Падпісана ў друк 20.04.1993 г. у 15 гадзін.**
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.